№ 123 (1936)
Чацвер, 8 ліпеня 2004 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Выдавец: УП «Народная воля»
Кошт свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

E-mail: nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

### *Надвор'е*

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +21...+23, сонечна, уначы — +11...+13, без ападкаў; у Брэсце ўдзень — +15..+17, дождж, уначы — +12...+14, без ападкаў; у Гродне ўдзень — +19...+21, сонечна, уначы — +12...+14, без ападкаў; у Віцебску ўдзень — +19...+21, сонечна, уначы — +10...+12, без ападкаў; у Гомелі ўдзень — +22...+24, сонечна, уначы — +11...+13, без ападкаў; у Магілёве ўдзень — +21...+23, сонечна, уначы — +9...+11, без ападкаў.

*www.meteo.by*



**ПУЛЬС**

## Паслы краін — членаў Еўрасаюза са шкадаваннем выказваюцца...

Паслы краін — членаў Еўрапейскага саюза ў Беларусі "з глыбокім шкадаваннем" выказваюцца аб тым, што ў краіне маюць месца такія "негатыўныя эпізоды", як напад на дэпутата Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Валерыя Фралова. Аб гэтым гаворыцца ў заяве кіраўнікоў дыпламатычных місій краін ЕС, распаўсюджанай пасольствам Італіі ў Беларусі. Падобныя здарэнні, зазначана ў дакуменце, найперш "зробяць трывожным палітычны клімат Беларусі ў гэты далікатны і важны" перадвыбарны перыяд.

Як паведамляецца ў заяве, паслы Італіі, Францыі і Вялікабрытаніі наведалі Валерыя Фралова, які расказаў ім аб дэталях здарэння.

## Офіс АБСЕ заклікае

Мінскі Офіс АБСЕ заклікае беларускія ўлады тэрмінова правесці расследаванне нападу на дэпутата Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Валерыя Фралова з мэтай "прыцягнення да адказнасці вінаватых і поўнага высвятлення абставін здарэння". Аб гэтым гаворыцца ў заяве кіраўніка офіса Эберхарда Хайкена.

Э.Хайкен заклікаў улады стварыць умовы "для правядзення адкрытых і справядлівых выбараў, што выключаюць факты запалохвання". Ён выказаў гатоўнасць офіса аказваць дапамогу "ва ўмацаванні даверу паміж асноўнымі зацікаўленымі бакамі".

**Вольга ЛАПІКАВА.**

## Будуць узмоцнены меры супраць інфекцыі

*У Беларусі будуць узмоцнены меры прафілактыкі іерсініёзнай інфекцыі. Адпаведную пастанову падпісаў галоўны дзяржаўны санітарны ўрач Міхаіл Рымжа.*

Як паведамілі БелаПАН у прэс-службе Міністэрства аховы здароўя, галоўныя дзяржаўныя санітарныя ўрачы абласцей і горада Мінска, згодна з пастановай, абавязаны патрабаваць ад кіраўнікоў і спецыялістаў прадпрыемстваў сельскай гаспадаркі, грамадскага харчавання, гандлю харчовымі таварамі, арганізацый адукацыі, аховы здароўя і сацыяльнага забеспячэння выканання санітарных патрабаванняў і тэхналагічнага рэжыму пры нарыхтоўцы, транспарціроўцы, захоўванні, перапрацоўцы, прыгатаванні і рэалізацыі харчовых прадуктаў.

Асаблівая ўвага пры гэтым будзе надавацца рэгулярнай ачыстцы месцаў захоўвання агародніны і садавіны, ізаляванай дастаўцы агародніны ад іншых прадуктаў, раздзельнаму захоўванню зімовай і ранняй агародніны, забруджанай зямлёй агародніны, ад садавіны, ягад і іншых прадуктаў. Пры прыгатаванні салатаў і страў для ўжывання ў сырым выглядзе неабходны дакладны адбор, мыццё і ачыстка, адзначана ў пастанове.

Такія меры прыняты ў сувязі з тым, што на працягу мая-чэрвеня гэтага года ў некаторых дзіцячых калектывах былі адзначаны выпадкі групавога захворвання на іерсініёзную інфекцыю.

Прычынай захворвання дзяцей сталі парушэнні санітарных патрабаванняў і тэхналагічных рэжымаў прыгатавання і рэалізацыі харчовых прадуктаў (салатаў) работнікамі харчаблокаў.

**Вольга АСІПЕНКА.**

**СЛОВА ВЕТЭРАНАЎ**

## Мы змагаліся і за гэтых таленавітых дзяцей!

Паважаная рэдакцыя!

Мы, удзельнікі Вялікай Айчыннай вайны, змагаліся за тое, каб вольна і шчасна жыла наша Радзіма, каб радаваліся людзі, а дзеці раслі на змену бацькам працавітымі, сумленнымі, сапраўднымі патрыётамі Бацькаўшчыны. Каб яны мелі ўсе магчымасці для духоўнага і фізічнага развіцця.

Вось чаму ўсёй душой мы падтрымліваем мужны калектыў настаўнікаў і вучняў Нацыянальнага гуманітарнага ліцэя імя Я.Коласа, дзе выхоўвалі цудоўную, высокаадукаваную, патрыятычна настроеную моладзь. У цяжкі для ліцэя час мы ахвяравалі пэўную суму грошай у дапамогу гэтай унікальнай навучальнай установы, якая стала сімвалам змагання беларусаў за права атрымліваць адукацыю на роднай мове, ведаць гераічную гісторыю Бацькаўшчыны без скажэнняў і ўразанняў.

Мы ганарымся абаронцамі ліцэя, іх нязломнасцю і прынцыповасцю. У нас, прайшоўшых праз страшную военную віхуру, сэрца баліць за гэтых таленавітых дзетак, выкінутых на вуліцу, за іх бацькоў і настаўнікаў.

Тым болей, калі даведаліся, што, набываючы новыя веды на працягу апошняга навучальнага года ў неверагодна цяжкіх умовах, ліцэісты-выпускнікі паказалі выдатныя веды на іспытах.

**М.І.БАЛІЦКІ,**
**Л.І.ЗАКУРДАЕЎ,**
**М.А.МЕЛЬНІКАЎ,**
**А.П.ЦЫХУН,**
**В.В.КАНАНЕНКА,**
**удзельнікі Вялікай Айчыннай вайны.**

*г.Гродна.*

*Купалле ў Смалявічах.*

**Фота photo.bymedia.net**

## Беларуска-шведскі праект

Шведскі "Тэатр Аркен" і беларускае маладзёжнае грамадскае аб'яднанне "Новые лица" прыступілі да рэалізацыі сумеснага праекта ў Беларусі. Каардынатар праекта Яніна Зінчанка паведаміла, што сутнасць яго заключаецца ў прапагандзе інтэрактыўнага тэатра, абучэнні беларускіх студэнтаў-тэатралаў метадыцы такой працы і стварэння спектакляў і перформансаў, задача якіх — уцягваць гледачоў у актыўнае вырашэнне актуальных сацыяльных праблем.

Рэалізацыя гэтага праекта, які фінансуецца Шведскім агенцтвам па развіцці міжнароднага супрацоўніцтва (СІДА), разлічана на 2004—2005 гады.

Усе этапы навучання, стварэння спектакляў і маючага адбыцца тура па гарадах Беларусі будуць фіксавацца на відэаплёнку. Апошнім этапам праекта стане ўдзел беларускай трупы ў фестывалі "форум-тэатра", які пройдзе ў Швецыі восенню 2005 года з удзелам артыстаў з краін Скандынавіі, Балтыі і Лацінскай Амерыкі.

**Ірына САЗАНОВІЧ.**

**ЛИЧНОЕ МНЕНИЕ**

# Не решился...

*Неустрашимых людей нет между теми, которым есть что терять.*

***Наполеон I***

**Андрей СУЗДАЛЬЦЕВ**

День 2 июля **мог войти** в современную историю Беларуси как день объявления начала процедуры референдума о снятии конституционных ограничений для переизбрания на пост президента страны. Но **не вошел.** Референдум так и не был объявлен, и вопрос о политическом будущем А.Лукашенко не получил своего логического разрешения. Зато на следующее утро мы увидели белорусского президента в странном, сшитом по моде 70-х годов военном мундире без знаков отличия. Звездочки заменили гербы. Маршал? Бери выше — генералиссимус...

Весь этот президентский маскарад в политике и на параде начинает напоминать осень 2003 года. В прошлом году весь весенне-летний политический сезон мы терялись в прогнозах, сценариях и догадках о начале процесса подготовки всенародного опроса. Но тогда было проще — А. Лукашенко сознательно связал решение своей политической судьбы с утверждением путем всенародного референдума Конституционного Акта Союзного Государства и поэтому с традиционным упорством тратил месяц за месяцем в бесплодной гонке за своим московским партнером. Он был "в колее" и поэтому лишен политического маневра. Тем более что Москва увлеченно занималась откровенной "рельсовой войной".

В.Путин, никогда не скрывающий своего отрицательного отношения к односторонним конституционным приобретениям в рамках российско-белорусского виртуального государства (один президент переизбирается каждые четыре года, а второй претендует на статус славянского Туркменбаши), с немалой политической пользой использовал газовый кризис. От встречи до встречи он просто водил своего белорусского коллегу за нос, пока в октябре не стало ясно — 2003 год для референдума упущен.

Вот тогда А.Лукашенко и посвятил несколько минут в своей октябрьской пресс-конференции оппозиционным аналитикам, которые, мол, "много болтали" о референдуме, а он и не состоялся. Следом за "работодателем" по независимому экспертному сообществу прокатился "каток" государственных СМИ. Любопытно было то, что ни один правительственный "рупор" не высказался в том духе, что, мол, референдум не был объявлен по причине решимости А.Лукашенко остаться в рамках действующей Конституции. Никто не рискнул заявить за главу белорусского государства, что он не видит для себя возможности пойти на слом Основного закона страны ради того, чтобы в третий раз поучаствовать в президентской гонке. Все прекрасно понимали, что референдум просто замотали по визитам и саммитам.

Нет сомнений, что и завтра государственные печатные СМИ не упустят возможности "лягнуть" независимых экспертов и аналитиков за неподтвердившиеся ожидания начала референдума. Но ни у одного из обличителей не повернется язык и перо заявить, что белорусский президент отказался от лелеемого конституционного всенародного опроса и покорно идет к завершению своего правления. Тем более никто не возьмет на себя ответственность сказать, что А. Лукашенко просто **не дали** воспользоваться тщательно продуманной и, что греха таить, вполне удачно проведенной полугодичной PR-кампанией.

За десятилетие нахождения у власти А.Лукашенко многому научился. В принципе, 2004 год был рассчитан правильно. С учетом провала 2003 года, кампания была организована не на платформе интеграции, а на идейной базе суверенитета. В сочетании с благотворным влиянием на белорусскую экономику российского экономического "бума" сформирована мощная "многоствольная" пропагандистская кампания: процветающая Беларусь, газовый "шантаж", "силиконизация" страны, "средний класс", "решение" чернобыльской проблемы, "модернизация производства", "невиданный подъем" сельского хозяйства, 200—700 долларов зарплаты, самая "спортивная страна мира", купающиеся в народной любви и государственной помощи ветераны... Все это дало хороший результат. Апофеозом стала подготовка к празднованию 60-летия освобождения. Накал страстей вокруг вклада белорусского президента в организацию юбилея был настолько высок, что у наших соседей сложилось впечатление, что А.Лукашенко лично встретился с каждым белорусским ветераном. Автору этих строк пришлось столкнуться и с таким мнением... Электорат смягчился. В электричках смолкли дискуссии...

Все "стрелы" президентского наступления на белорусское общественное мнение естественным образом сошлись на дни июльских торжеств.

Стоит отметить, что и внешнеполитическая ситуация сложилась вполне благоприятно. ЕС, по большому счету, не до Минска. Ему бы с Восточной Европой разобраться. Это только сейчас Париж и Берлин начинают понимать, что собой представляют бывшие члены СЭВ. НАТО, что подтвердил саммит в Стамбуле, озабочено тем, что благодаря своему участию в операциях в Афганистане оказалось перед перспективой омыть ноги солдат своих в водах Тигра и Евфрата. США идут к основному политическому событию четырехлетия — ноябрьским президентским выборам — под аккомпанемент взрывов в Багдаде.

Американцы завязли в Ираке, администрация Буша пошла на радикальные изменения в своей иракской политике, но результаты таких перемен скажутся не скоро.

Сложнее с российским направлением. Дело в том, что благоприятные внешнеполитические факторы для Беларуси идентичны и для России. Кремль умело этим пользуется. С каждым месяцем динамика внешней политики Москвы на постсоветском пространстве растет. Со сменой главы российского МИДа произошло то, что давно ожидали эксперты, — российская деятельность в странах СНГ стала прерогативой Администрации президента РФ, а МИД сфокусировал свое влияние на дальнем зарубежье. Отсюда и специфические черты действий Москвы по отношению к своим соседям: сочетание традиционной дипломатии с развертыванием широкого ведомственного зондажа, работа с элитами, разработка сценариев. СНГ стало для Кремля реальным приоритетом. В.Путин ежедневно уделяет солидное количество времени обсуждению политической обстановки в Киеве, Астане, Тбилиси, Минске. По некоторым источникам, он успевает даже ознакомиться с материалами из ведущих СМИ соседних стран. Но тем не менее Москва только приступает к изменениям принципов своей деятельности в ближнем зарубежье. Выполняя волю окрепших российских корпораций, Кремль вынужден переходить от политики "проплаченного союзничества" к интеграции по типу ЕС — "союз демократий". Следовательно, в недалеком будущем главная угроза для Туркменбаши и иже с ним будет проистекать не из далекого Вашингтона, а из близкой Москвы. Но пока это не все поняли...

А.Лукашенко давно все понял, но он любитель рисковать. Сделав ставку на 3 июля, он взвесил все "за" и "против": Кремлю будет крайне сложно отказаться от визита вежливости в столицу союзного государства, когда там, за десять месяцев до 60-летия Победы советского народа над фашистской Германией, празднуют свое 60-летие освобождения от фашистской оккупации. Но Кремль тянул с ответом почти месяц.

Уже в конце мая аналитикам стало ясно, что у фронтального наступления А.Лукашенко на собственный электорат есть одно ключевое звено, которое не зависит от официального Минска. Это — благословение референдума Кремлем. Этим почти театральным жестом рвутся все контакты белорусской оппозиции с российской элитой, падает защитный "березовый занавес" на западной границе, нейтрализуются пророссийские и одновременно антилукашенковские силы внутри Беларуси, ликвидируются газовые, нефтяные, валютные, таможенные угрозы с Востока, происходит сдвиг в сторону А.Лукашенко белорусского электорального "болота" и т.д. и т.п. Появление российского президента рядом с белорусским 2-3 июля должно было триумфально завершить первый шестимесячный этап пропагандистской кампании А. Лукашенко. На очереди был бы второй этап — референдум.

В народе такой метод называется "не мытьем, так катаньем". Другими словами: не желаете поддержать меня на поприще интеграции, то я своего добьюсь у Вечного огня подвига народа. Попробуйте, мол, отвертеться...

*(Окончание на 2-й стр.)*

**ГЛЫБІНКА**

## Паспрабуй залапіць «трышкаў каптан»

Месца гэтае на беразе Нёмана, за вёскай Мікалаеўшчына на Стаўбцоўшчыне, дзе ўсё наваколле гаворыць пра народнага песняра Якуба Коласа, невыпадкова выбралі пад пансіянат для ветэранаў вайны і працы: тут лечаць і душы, і цела. Прыгажосць — не перадаць! На працягу дзесяткаў гадоў сюды ў два трохпавярховыя карпусы штомесяц з'язджаліся да 350 чалавек. І амаль усе заставаліся задаволеныя адпачынкам. Падабаліся жыллёвыя ўмовы, харчаванне, абслугоўванне, культурныя праграмы, тым больш што паблізу, пры інтэрнаце для інвалідаў і састарэлых, ёсць багатая бібліятэка і клуб, дзе гасцінна прымалі і наведвальнікаў з суседняй установы адпачынку.

Ды ў пачатку года ў раённае ўпраўленне па працы і сацыяльнай абароне пры райвыканкаме (і ў іншыя раёны Міншчыны таксама) з абласной "вертыкалі" быў сігнал: заявы ад жадаючых паехаць у "Мікалаеўшчыну" не прымаць — там распачынаецца капітальны рамонт. Слоў няма, рамонт патрэбны, будынкі парадкам "абнасіліся". Знаёмыя ветэраны вайны прасілі мяне "разведаць", як там зараз ідуць справы, мо хоць пад канец лета можна спадзявацца на пуцёўку. У Стоўбцах, ва ўпраўленні па працы і сацыяльнай абароне мне адказалі, што ўсе сілы будаўнікоў кінуты на завяршэнне рамонту іншага аб'екта — інтэрната для інвалідаў, перасяленых на час у карпусы дома адпачынку "Мікалаеўшчына". Але да свята 60-годдзя вызвалення Беларусі яны вернуцца на месца пастаяннага жыхарства, і тады будзе магчымасць накіраваць будаўнікоў на рамонт пансіяната... Нядаўна тэлефаную ў Стоўбцы знаёмаму. І той малюе карціну, пра якую я чуў ужо раней: будаўнікі ўсё яшчэ заняты на інтэрнатаўскіх аб'ектах. І тое добра: пра бездапаможных людзей трэба клапаціцца. А пра ветэранаў? Надзеі на адпачынак у "Мікалаеўшчыне" ў іх пакуль няма. Хутчэй за ўсё давядзецца чакаць новай гучнай даты ўжо ў будучым годзе — 60-годдзя Вялікай перамогі. Былыя франтавікі і партызаны, што ішлі праз агонь, замярзалі, танулі і якіх сёння засталося не так ужо і шмат, зараз не могуць прабыць хоць дваццаць дзён на ўлонні прыроды, падыхаць чыстым паветрам, нагаварыцца між сабой, згадваючы былое...

Разумею: на ўсё не хапае грошай. І ўсё роўна балюча: столькі часу мінула пасля той перамогі, а мы ніяк не вырвемся з цянётаў беднасці, латання дзірак па метадзе ўладальніка "трышкавага каптана".

...Мне сказалі, што сродкі на абнаўленне пансіяната і інтэрната аблвыканкам выдзеліў у тэрмін, але, падобна, не так проста падзяліць іх на два аб'екты для састарэлых. Вось і давялося б выбіраць, што рамантаваць у першую чаргу: інтэрнат ці пансіянат? І там, і там — нямоглыя людзі, якім так патрэбны клопат і ўвага...

**Міхась ТЫЧЫНА,**
**ветэран Вялікай Айчыннай вайны.**

**ЧУЛІ?**

## Будзе «Сіліконавая даліна»,
### ці Парк высокіх тэхналогій

*У Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (НАНБ) лічаць, што стварэнне парка высокіх тэхналогій павінна адбывацца не на пустым месцы, а на базе існуючых у краіне моцных навуковых цэнтраў. Пра гэта на прэс-канферэнцыі ў Мінску заявіў першы віцэ-прэзідэнт НАНБ акадэмік Пётр Віцязь. У якасці такіх цэнтраў, паводле яго слоў, маглі б выступіць Акадэмія навук з яе рэсурсамі ці універсітэцкая навука.*

Нацыянальная акадэмія навук выступае таксама за тое, каб павысіць зацікаўленасць вытворцаў у асваенні і выкарыстанні навацый. Для гэтага прапаноўваецца ўнесці пэўныя змяненні ў сістэму падаткаабкладання і, у прыватнасці, вызваліць вытворчасці, якія ўкараняюць новую тэхніку і прадукцыю, на некалькі гадоў ад пэўных відаў падаткаў. "Мы спрабуем зацікавіць вытворца ва ўкараненні навацый", — сказаў Пётр Віцязь.

Акрамя гэтага, асобную ўвагу трэба надаць сістэме абароны інтэлектуальнай уласнасці, якая зараз яшчэ недастаткова развіта. Неабходна, у прыватнасці, каб канкрэтны распрацоўшчык той ці іншай ідэі, рацыяналізатарскай прапановы атрымліваў дывідэнды ад яе ўкаранення.

Пётр Віцязь таксама агучыў прапановы адносна магчымага размяшчэння тэхнапарку. Адным з такіх месцаў маглі б стаць недабудаваныя карпусы аднаго з навуковых інстытутаў у Мінску. Паводле слоў першага віцэ-прэзідэнта НАНБ, частка гэтых памяшканняў магла быць аддадзена пад інтэрнат для маладых спецыялістаў з усёй краіны, занятых у распрацоўцы інфармацыйных тэхналогій. Яшчэ частку плошчаў можна аддаць пад размяшчэнне кампаній, якія спецыялізуюцца на інфармацыйна-камунікацыйных тэхналогіях. Астатняя частка плошчаў была б аддадзена пад рэалізацыю названымі кампаніямі і спецыялістамі канкрэтных сумесных праектаў у галіне высокіх тэхналогій.

Як раней паведамляў БелаПАН, першыя крокі па стварэнні ў Беларусі парку высокіх тэхналогій, або так званай беларускай "сіліконавай даліны", будуць зроблены ўжо сёлета. Плануецца, што заснавальнікамі парку выступяць Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Міністэрства эканомікі і Мінгарвыканкам. Плануецца таксама ўтварыць дзяржаўны назіральны савет, які вызначыць кірункі развіцця парку, будзе рэгуляваць узаемадзеянні яго рэзідэнтаў з дзяржструктурамі і зацвярджаць канкрэтныя праекты. Акрамя таго, будзе створаны савет удзельнікаў парку высокіх тэхналогій. Дзейнасць парку плануецца сканцэнтраваць на такіх кірунках, як інфармацыйныя тэхналогіі, нанатэхналогіі і новыя матэрыялы, энергазберажэнне і альтэрнатыўная энергетыка, мікраэлектроніка, а таксама тэхналогіі на аснове перапрацоўкі айчыннай сыравіны.

**Аляксей АРЭШКА.**

**ХОЧУ ЗНАТЬ...**

## В чей карман попадают деньги налогоплательщиков?

Существует расхожее мнение: нехорошо, мол, считать деньги в чужих карманах... Думаю, такой постулат подходит для развитого, цивилизованного государства, где всем известна зарплата президента и госсекретаря, министров и высших госчиновников, генпрокурора и главного судьи... У нас же зарплата "высшего комсостава" является тайной за семью печатями! А почему? Из каких источников она им выплачивается? Из бюджета, который формируется за счет средств налогоплательщиков. Так почему, скажите, налогоплательщики не могут знать, как расходуются их деньги?

Исходя из этого, я признаюсь, предпринял не одну попытку дознаться по официальным каналам, сколько же у нас получает в месяц зарплаты "всенародноизбранный", его министры и депутаты "нацсхода", его "губернаторы" и предисполкомов, сотрудники налоговой инспекции и других фискальных органов, эмвэдэшники всех мастей и рангов — от участкового до министра, дикторы и комментаторы гостелевидения и прочие его прислуживатели... К сожалению, даже при всей моей супернастырности и экстракоммуникабельности, мне не удалось ничего узнать. Я даже написал по этому поводу "челобитную" в Палату представителей одному знакомому мне весьма представительному депутату. Но и он почему-то "постеснялся" мне помочь в этом многотрудном поиске. Видать, опасался, что я сошлюсь на него в своей статье...

Помню, на страницах "Народной воли" как-то промелькнула заметка Семена Корунца из Баранович под заголовком "Я хочу знать зарплату президента, премьера, депутатов, министров...". К заметке был подверстан редакционный постскриптум о том, что она, редакция, выражает надежду, что в Администрации президента найдут возможность ответить на этот запрос читателя и избирателя. Я такого ответа на страницах "НВ" не нашел — его, видать, не существует в природе...

Между тем, повторяю, ни в одной стране мира, в том числе и в СНГ, такая информация вовсе не является секретной, известна всем гражданам, даже детям. Но... что для немца не в жилу, то для белоруса — в самый раз. По сведениям российской печати, президент РФ В.Путин получает ежемесячно 63 тысячи рублей, не считая доплат: премиальные, за стаж, секретность, военная пенсия и т.д. Это, может быть, меньше, чем получает американский президент (по моим данным, Джордж Буш имеет в год 275 тысяч долларов), но в сорок раз больше, чем в той же Российской Федерации получает начинающий учитель...

Базовые оклады премьера, спикеров Госдумы и председателя Совета Федерации в России — 50 тысяч 400 рублей, т.е. около 2000 у.е. (неужели наши "палатники" получают меньше?!). Базовые оклады министров, парламентариев обеих палат недавно возросли в полтора раза. По признанию бывшего министра труда А.Починка, он в прошлом году получал со всеми надбавками 28 тысяч рублей в месяц. Теперь министр такого ранга имеет в полтора раза больше, т.е. более сорока тысяч рублей. Нехило живут высокопоставленные русичи, ничего не скажешь! Если учесть, что учитель там получает максимум четыре тысячи...

Правильно: не к лицу президенту страны, членам правительства давать низкие оклады. А стоящим у кормила власти в сегодняшней Беларуси разве не стыдно платить учителям 300—350 тысяч, нянечка в детском саду получает примерно половину от этого, не намного больше — медсестра поликлиники, больницы...

Бытует мнение о том, что, если чиновнику платить много, то он не будет брать взятки. Мне кажется, у нас коррупция приобрела такие масштабы, что с ней можно покончить при одном условии — смене власти. А чтобы люди знали все о власти, они должны знать и о том, как они, налогоплательщики, оплачивают работу чиновников всех мастей. Может, нужно не поднимать им ставки и не придумывать всякие доплаты, а, наоборот, урезать до минимума. Или вообще отказаться от их услуг как не оправдавших доверие?

На мой взгляд, только этого они и заслуживают...

**Александр ОЛЬХОВОЙ.**

## Мікалай Ананьеў можа пакінуць свае пасады

***Памочнік прэзідэнта па пытаннях фізічнай культуры, спорту і турызму, віцэ-прэзідэнт НАКа Беларусі Мікалай Ананьеў можа пакінуць свае пасады.***

Па нашай інфармацыі Мікалай Канстанцінавіч збіраецца перайсці на іншую працу, спецыфіка якой пакуль не раскрываецца.

Згодна з дзеючымі нарматыўна-прававымі актамі, памочнік прэзідэнта вызваляецца ад гэтай пасады ўказам прэзідэнта, а віцэ-прэзідэнт НАКа — рашэннем Алімпійскага сходу. Як вядома, Алімпійскі сход распачнецца сёння і працягнецца заўтра. Як чакаецца, падчас разгляду арганізацыйных пытанняў на ім, магчыма, будзе аб'яўлена пра адстаўку Мікалая Ананьева.

Яшчэ ва ўчарашнім нумары "Народнай волі" трохразовы алімпійскі чэмпіён Уладзімір Парфяновіч выказаў меркаванне, што месца Ананьева, калі той вызваліць пасаду памочніка прэзідэнта, можа заняць **Генадзь Аляксеенка**, які ў свой час займаў пасаду першага намесніка міністра спорту і турызму. У красавіку бягучага года была аб'яўлена падзяка Аляксандра Лукашэнкі "за значны ўклад у рэканструкцыю культурна-спартыўнага рэспубліканскага мерапрыемства "Палац спорту" і падрыхтоўку яго да правядзення чэмпіянату свету па хакеі сярод юніёраў".

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

ВЕДАЙ НАШЫХ!

# Пецярбургскі сепаратыст

## *Беларус, які пражыў у паўночнай расійскай сталіцы 35 гадоў, марыць, каб рускія нарэшце зразумелі Беларусь*

*Калі я збіраўся наведаць 71-гадовага* **Валянціна ГРЫЦКЕВІЧА,** *старшыню Беларускага грамадска-культурнага таварыства Санкт-Пецярбурга, у яго сціплай кватэры на Петраградскай старане, спачатку, шчыра скажу, вагаўся, якую мову выбраць для гутаркі — рускую альбо беларускую. Мой суразмоўца ўсё ж такі з 1969 года жыве ў Расіі. Але Валянцін Пятровіч адразу ж на парозе развеяў мае сумненні. "Прывітанне! Сядайце, калі ласка. Пачаставаць Вас кавай ці гарбатай?" — ветліва пачаў пецярбуржац Грыцкевіч. Беларусу з трыма вышэйшымі адукацыямі, які значную частку свайго свядомага жыцця аддаў няроднай краіне, тым не менш, удалося застацца беларусам. Аб гэтым сведчыць і наша гутарка з гэтым цікавым і, безумоўна, незвычайным чалавекам, доктарам гістарычных навук, які зараз выкладае музейную справу у Пецярбургскім універсітэце культуры і мастацтва.*

### «Гэта ваша гісторыя, а не наша!»

— Амаль усе рускія гісторыкі сёння, на жаль, імперыялісты, — пачаў Валянцін Пятровіч. — Асабліва ў тым, што тычыцца зносінаў Расіі і Беларусі. Гэта іх стаўленне не залежыць ад таго, якая ў Расіі ўлада — рэспубліканская альбо царская. Адсюль і праблема Чэчні, адсюль і праблема Беларусі, адсюль спробы зноў з'яднацца з Украінай. Але што адбываецца зараз у свеце? На нашых вачах мірным шляхам распалася Чэхаславакія, ваенным — Югаславія, хоць усе яны там і адной веры. Гэта — натуральны шлях! Як гісторык найноўшага перыяду, я бачу, што той жа самы шлях і для Расіі (дай Божа, каб я да гэтага не дажыў!) — гэта распад па расійскіх рэгіёнах — Далёкі Усход, Паволжжа, Сібір, Паўночны Каўказ... Аб'яднанне Расіі і Беларусі можа прывесці толькі да аднаго — да новага Ольстэра. Беларусы доўга церпяць, але потым так могуць выбухнуць... Так было з русіфікацыяй пры царызме, так было і з нямецкай акупацыяй. Дый ці трэба паўтараць памылкі мінулага?

**— Вы лічыце сённяшні імперыялізм у Расіі наступствам сталінскага рэжыму?**

— Гэта не сталінскі, але і не антысталінскі імперыялізм. "Нясталіна" ў нас прынялі пры Хрушчове, "антысталіна" не прынялі і не прымаюць да сённяшняга дня. Зараз у расійскім Петразаводску, напрыклад, хочуць паставіць помнік Андропаву, а па сутнасці — паслядоўніку "вялікага Сталіна". Цяперашні расійскі імперыялізм ідзе ад бальшавікоў, якія, па словах Мікалая Бердзяева, ідэю Трэцяга Рыму падхапілі ў ідэі Трэцяга інтэрнацыяналу. Увесь час свайго праўлення бальшавікі ўкладвалі ў вушы людзей: трэба збіраць як мага больш зямель, трэба збіраць як мага больш зямель...

**— Тут, у Пецярбургу, Вы спрабавалі чытаць беларускія курсы. І што, удалося?**

— Выдаваць у Пецярбургу беларускія кніжкі, ладзіць беларускія курсы — гэта, як аказалася, проста ідэалізм. Я прапаноўваў чытаць гісторыю Беларусі ў педінстытуце. Раней у нас была вельмі добрая нацыянальная праграма, яе прыхлопнулі... Я даводзіў расіянам наш пункт гледжання, нават калісьці працытаваў песню беларускіх паўстанцаў: "Пойдзем, хлопцы, да Касцюшкі, будзем біць там маскалюшак". Нічога, прайшло ў эфір. Але ўсё гэта скончылася. Цяпер ва універсітэце некаторыя калегі называюць мяне сепаратыстам.

**— Як Вы самі ставіцеся да гэтага?**

— Смяюся. І кажу ім: вы папракаеце мяне тым, што я люблю свой народ, значыцца, вы самі мала любіце свой народ. Сепаратызм — гэта калі частка Расіі хоча адысці ад яе. Але Беларусь — не частка Расіі. Гэта незалежная дзяржава, раней прыхопленая Расіяй. Выкладчыкам-расіянам часцей за ўсё няма чаго сказаць мне ў адказ. Часта цытую ім ірландца Джэймса Джойса, які, дарэчы, пісаў па-англійску: *"Гісторыя, якую напісалі нам англічане, гэта не наша гісторыя, гэта ваша, англійская, вамі прыдуманая гісторыя"*. Тое ж самае можна сказаць пра Расію. Яны прыдумалі гісторыю Беларусі і хацелі, каб мы паверылі ў яе. Але ёсць тут адна істотная розніца: англічане дазваляюць друкаваць тое, што сказаў Джойс...

У Маскве працуе беларус Каўка. Дык вось ён адзіны, хто чытае ў маскоўскім Літаратурным інстытуце імя Горкага курс беларускай літаратуры. Іншым адмаўляюць. Найлепшы, на мой погляд, на тэрыторыі былога СССР гісторык медыцыны, акадэмік Нацыянальнай латвійскай акадэміі Арніс Віксна сказаў: *"Нацыяналіст — гэта той, хто ведае дзве мовы, а інтэрнацыяналіст — гэта той, хто ведае толькі адну"*. Лепей не скажаш.

**— А як успрымаюць Вашы лекцыі студэнты?**

— Добра. Яны людзі маладыя, а таму іх галовы не засмечаныя голай савецкай прапагандай. Я кажу ім, напрыклад, што Расія абрабавала дзесяць краін — Літву, Эстонію, Латвію, Фінляндыю, Беларусь і г.д.

**— Але ж студэнты таксама рускія. Яны Вас разумеюць?**

— А я ім прыводжу словы асветніка Мантэск'е: *"Любіць сваю краіну я абавязаны, а вось хлусіць дзеля сваёй краіны я не маю права"*.

**— Вы сваім студэнтам часам цытуеце Леніна і Сталіна. Навошта?**

— Студэнтам трэба ведаць і ленінскую ідэалогію, і сталінскую. Каб параўноўваць з Бердзяевым, з Салаўёвым, з Франкам. Яны павінны ведаць, у якой багне апынулася Расія пры камуністах.

**— А з чым, як Вы думаеце, могуць параўноўваць беларускія студэнты ідэалогію Лукашэнкі, якую зараз у нас актыўна прапіхваюць?**

— Я надта не люблю лаяцца, гэта не інтэлігенцкая справа... Таму прамаўчу.

**— У трактаце "Этнічныя арганізацыі Санкт-Пецярбурга", які распаўсюджваецца ў Інтэрнеце, напісана, што ў Піцеры зарэгістравана больш за 120 такіх арганізацый. Галоўнымі мэтамі, напрыклад, Чувашскага культурнага цэнтра з'яўляюцца сустрэчы суайчыннікаў, падтрымка сувязяў з этнічнай радзімай і сумеснае правядзенне этнічных святаў, а таварыства "Халом" — выкладанне іўрыта. Якія мэты ў Беларускага грамадска-культурнага таварыства Санкт-Пецярбурга, якое Вы ўзначальваеце?**

— Галоўная наша мэта — распаўсюджванне ведаў пра культуру беларусаў. Мы спрабуем (безвынікова пакуль) пашыраць гэтыя веды сярод расійскіх студэнтаў. Ядро нашай арганізацыі — пісьменнікі, паэты, мастакі, дактары, кандыдаты навук, афіцэры вышэйшага ўзроўню — людзі, якіх аб'ядноўвае не толькі жаданне пагаварыць па-беларуску, але і праявіць сябе ў выставах, у выданнях — навуковых ці літаратурных. Марым узнавіць у гэтым горадзе беларускія традыцыі, якія існавалі з дня заснавання горада — ад Меншыкава і Кацярыны Другой, праз братоў Каліноўскіх, праз шматлікіх беларускіх генералаў: генерал арміі Якубоўскі і маршал Сакалоўскі, напрыклад, добрасумленна служылі расійскаму цару. Шмат беларусаў працуюць і зараз у адміністрацыйных органах Пецярбурга. Губернатар Ленінградскай вобласці Сердзюкоў — таксама беларус.

### «Фралоў не падабаецца, але альтэрнатыва Лукашэнку павінна быць»

**— Як Вам цяперашняя сітуацыя на Беларусі?**

— Ну, з Лукашэнкам і яго рэжымам мне ўсё ясна. Але, прабачце, мне зусім не зразумелая праграма дэпутата "палаткі" Фралова. Чаго яго так ухваляюць? Па-першае, усе артыкулы ў "Народнай волі" ён друкуе на расійскай мове. Па-другое, у яго тыпова папулісцкія прыёмы...

**— Іншымі словамі, Фралоў Вам не падабаецца. Але хто тады можа аб'яднаць нацыю і выратаваць Беларусь?**

— Я не магу сказаць, што мне не падабаецца Фралоў. Але... папулізм, які прапануе Фралоў, — тыповая форма лебядзізму (*генерал Аляксандр Лебедзь — нядаўна загінуўшы губернатар Краснаярскага края.* — **А.С.**). Лебедзь быў добрым, разумным чалавекам, але ён лічыў, што калі эканоміцы, як каню, скажаш "Ну!", то яна будзе рухацца, калі скажаш "Тпру!" — яна спыніцца. Што ад такой палітыкі атрымалася ў Краснаярскім краі, усе ведаюць — нічога не атрымалася. Піяр Фралова адзін да аднаго падобны да піяру, які квітнее зараз тут...

Адзін з апошніх артыкулаў Фралова быў прысвечаны пошукам свята прымірэння. У нас, на мой погляд, з расіянамі ёсць адзінае свята прымірэння — 9 Мая, Дзень Перамогі. Перамогу пад Оршай Фралоў адмятае. Чаму — вядома: гэта не даспадобы старэйшаму брату. Але гэта не прымірэнне, сп. Фралоў, гэта — капітуляцыя!

А што тычыцца Вашага пытання наконт выратавальніка Беларусі, то лепш за ўсё адказаў чалавек, з якім мы скончылі адну школу, — Станіслаў Шушкевіч: кожны можа ім стаць. Сёння шмат людзей, вельмі шмат, якія могуць выратаваць Беларусь, павесці яе па добрым шляху. А што тычыцца розных рэйтынгаў і маніторынгаў, то гэта ўсё ва ўмовах аўтарытарнага рэжыму лухта.

**— Хачу Вас спытаць як чалавека, які доўгі час жыве ў Расіі: нам часта ўнушаюць, што мы, беларусы, і рускія — гэта браты-блізняты, што мы адно...**

— Адкажу прыкладам: славакам доўгі час казалі, што яны браты чэхаў, што нават ёсць нейкі адзіны чэхаславацкі народ. Некаторыя нават паверылі ў гэта. І што атрымалася? Развод! Гэта прыклад таго, як стаўка на дэмакратыю без уліку этнаграфічных асаблівасцяў прыводзіць да катастрофы. Што тычыцца рускіх і беларусаў, то яны крыху падобныя па ментальнасці. Але ў вялікаросаў — большая жорсткасць, у беларусаў — меншая. Гэта было мне бачна нават па гадах працы ў школе. У Расіі, напрыклад, паўсюль ў школах былі бойкі ды пастаянныя абразы ў адрас нацыянальных меншасцяў — татар, мардвы, яўрэяў... Для мяне гэта было дзіўна — у беларусаў такога не было. Пра працавітасць нічога не скажу — у Расіі гэта было, але яе патлуміла савецчына. Калі давалі чалавеку ў Расіі зарабіць, то ён працаваў як трэба, калі адабралі гэтае права, ён пачаў працаваць, як кажуць, "спустя рукава". У чым мы яшчэ падобныя — дык гэта ў тым, што шмат вольнага часу марнуем дарэмна: у Беларусі, я бачыў, шмат людзей сядзяць на лавачцы побач з плотам. У Польшчы і Украіне гэтага няма...

### «Лукашэнкам пужаюць расіян»

**— Які Ваш прагноз на бліжэйшы час? Як Расія будзе да нас ставіцца?**

— Расія відавочна хоча прыбраць Беларусь да сябе, уключыць у свой склад. Але Расія, на жаль ці на шчасце, не мае магчымасці супрацьіўляцца пашырэнню Еўрапейскага Саюза — па-першае, са сваім антыамерыканізмам яна ў ім зацікаўлена, а па-другое, страчана былая вайсковая перавага. І гэтая расійская ваенная моц, дарэчы, на маіх вачах сама разбураецца, прапіваецца.

**— Калі ў Расіі няма былой ваеннай моцы, як яна можа прыбраць Беларусь да рук?**

— Не арміяй, дык адміністрацыяй і чацвёртай уладаю — расійскімі сродкамі масавай інфармацыі. Адзін разумны чалавек яшчэ ў 70-х гадах, распавядаючы пра "уотэргейт" (*скандал з прэзідэнтам ЗША Рычардам Ніксанам, у выніку якога ён страціў уладу.* — **А.С.**), казаў, *"што нават у капіталістычным свеце ёсць сапраўдная чацвёртая ўлада"*. А зараз замбіраваць людзей, фарміраваць так званы вышэйшы пласт грамадскай думкі — працсей простага. Грамадскую думку сёння, на жаль, фарміруе не інтэлігенцыя, а СМІ.

**— Як, на Ваш як грамадзяніна Расіі погляд, Пуцін ставіцца да Лукашэнкі?**

— Пуцін яго як быццам не заўважае. Гэта відавочна! Нават самая кансерватыўна настроеная інтэлігенцыя Пецярбурга бачыць гэта. Асабліва іх перасмыкае, калі гэты чалавек бяжыць на роліках. Па плошчы! Гэта мне нагадвае часы Нерона ў Рымскай імперыі 54—68 г.г. нашай эры, які лічыўся паэтам, спеваком. Калі Нерон не адчуваў, што ён у поўную моц імператар, то ён хацеў мець імідж паэта. А хто яго не хваліў — галава з плеч. Лукашэнка ніколі не прадасць сябе ні Еўропе, ні Амерыцы. Па адной простай прычыне — не купяць. Як Слабадана Мілошавіча. Значыць, хочаш не хочаш, ён будзе цягнуцца да матухны-Расіі. І яшчэ Лукашэнку ў Расіі лічаць неўраўнаважаным чалавекам, ад якога можна ўсяго чакаць.

**— А як пецярбургскія чыноўнікі ставяцца да цяперашніх беларускіх улад?**

— Не ўпэўнены, што яны маюць сваю думку. Яны скажуць тое ж самае, што скажа Пуцін. У нас, у Расіі, ёсць, напрыклад, скінхеды, Рускае нацыянальнае адзінства. Яны забіваюць на дзень нараджэння Гітлера аднаго чорнаскурага афрыканца — у Пецярбургу нядаўна забілі сына лівійскага аташэ па пытаннях культуры. Часам забіваюць яўрэяў, армян. Але яны ніяк не праследуюцца сілавымі структурамі? Чаму? Уладам трэба пудзіла: вось бачыце, калі мы не будзем закручваць гайкі, то яны пойдуць угару.

**— А Лукашэнка тут пры чым?**

— Расійскаму выбаршчыку ўнушаюць: калі вы будзеце незадаволены нашым рэжымам, то ў Расію прыйдзе той, лукашэнкаўскі, — нашмат горшы. Лукашэнкам пужаюць расіян. А тут, у Расіі, яшчэ няма вобраза бацькі. І магу сказаць чаму: у Пуціна не той знешні выгляд. У Ельцына такі выгляд быў...

### Хто зрабіў з палаца барак?

**— Сусветнавядомы расійскі пісьменнік Фёдар Дастаеўскі неяк пісаў пра Пецярбург:** ***"Питер — это город полусумасшедших. Если б у нас были науки, то медики, юристы и философы могли бы сделать над Петербургом драгоценнейшие исследования, каждый по своей специальности. Редко где найдется столько мрачных, резких и странных влияний на душу человека, как в Петербурге. Чего стоят одни климатические влияния!"*** **Вы згодны з Дастаеўскім: няўжо тут так змрочна, а вы тут усе паўвар'яты?**

— Я не згодны з Дастаеўскім. Шчыра кажучы, ён сам быў хворым чалавекам. Што тычыцца клімату, то ён тут, канешне, далёка не найлепшы. Пераехаўшы сюды з Беларусі, я страціў два цёплыя месяцы — красавік і верасень. Але ж Піцер для мяне — зусім іншае, гэта адзіны еўрапейскі горад у азіяцкай Расіі, створаны адукаванымі людзьмі. Сімяон Полацкі ў свой час трапіў у Маскву невыпадкова — там быў попыт на еўрапейскую культуру. І Беларусь XIX стагоддзя значна падпітвала культуру гэтага горада. Беларус Анатоль Кірвель кажа, што, калі б мы не пераехалі ў Пецярбург, мы не ўбачылі б свет шырэйшым. Тут ёсць пэўны ўзровень, да якога трэба цягнуцца. Гэты ўзровень дасягнуты дарэвалюцыйнай інтэлігенцкай культурай, архітэктурай і мастацтвам. Тутэйшая культура ўвабрала ў сябе самае лепшае не толькі з Расіі, але і з Еўропы. Тут жа, у Пецярбургу, мяне нават будынкі лечаць.

**— Ад чаго яны Вас лечаць?**

— Калі сумна, калі дрэннае надвор'е, снег валіць, паўсюль дождж, як глянеш на гэтыя прыгожыя будынкі — сум і хвароба адразу адыходзяць. У Мінску прыгожай архітэктуры амаль няма. Пецярбург — гэта не акно ў Еўропу, гэта вароты ў Еўропу і з Еўропы.

**— Дазволю прывесці яшчэ адну цытату пра ваш горад, на жаль, не памятаю чыю: "Петербуржец живет в городе, где здания похожи на декорации пьесы столетней давности, он чувствует себя скорее персонажем литературного произведения, нежели человеком, живущим здесь и сейчас". Персанажам якой п'есы адчуваеце сябе Вы, Валянцін Пятровіч?**

— П'есы ў стылі сацрэалізму. Вы ж бачыце, колькі яшчэ ў нашым горадзе смецця, бачылі, у якім стане пад'езд, дзе я жыву. Шмат будынкаў у Пецярбургу камуністы зрабілі баракамі. Дазвольце ў гэтай сувязі наступны ўспамін: той самы Арніс Віксна павёз мяне неяк ў Латвію, у тую вобласць, якая дала латышскай культуры ў другой палове XIX стагоддзя лепшых кампазітараў, драматургаў і архітэктараў. Мы зайшлі ў яго былы палац — аніводнай лямпачкі, вісяць нейкія транты на вяроўках, смярдзіць. У яго былым палацы саўгас пасяліў сельскагаспадарчых рабочых з ментальнасцю раба. З палаца можна зрабіць барак, з горада можна зрабіць барак.

**— І хто зрабіў з Пецярбурга барак?**

— Бальшавікі. Усё пачалося з камунальных кватэр, у якіх да сённяшняга дня жыве каля 30 працэнтаў пецярбуржцаў. Нават у новабудоўлях робяць камунальныя трохпакаёвыя кватэры, у адным пакоі — адна сям'я, у другім — другая.

**— Не цягне на Радзіму, Валянцін Пятровіч?**

— На Радзіму з такім кіраўніцтвам не цягне. Я, можа, і вярнуўся б у Мінск, калі б можна было выкладаць па-беларуску, калі б беларуская мова зноў атрымала статус адзінай дзяржаўнай, сталі беларускімі радыё і тэлебачанне...

**— Калі ў чарговы раз робіце безвыніковыя спробы праціснуць беларускія інтарэсы ў Расіі, вы хочаце, каб расіяне пакахалі Беларусь?**

— Я хачу, каб расіяне зразумелі Беларусь. А зразумеўшы, і пакахаюць.

**Алесь СІЛІЧ.**
**Фота аўтара.**

*Мінск—Санкт-Пецярбург—Мінск.*

ПУЛЬС

### З Бабруйска ў Іркуцк

Рэспубліканскае даччынае унітарнае вытворчае прадпрыемства "Бабруйсксельмаш" адправіла ў Іркуцк (Расія) першую партыю новых універсальных трактарных пагрузчыкаў. Тэхніка выраблена па заказе аблаграэабеспячэння расійскага рэгіёна. Згодна з заключаным дагаворам, прадугледжана пастаўка 20 пагрузчыкаў.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

### Кампанія «SAP» прапаноўвае

Кампанія "SAP" (Германія) гатова прапанаваць Беларусі новыя стандарты кіравання прадпрыемствам. Аб гэтым 6 ліпеня на прэс-канферэнцыі ў Мінску паведаміў рэгіянальны дырэктар кампаніі "SAP C.I.S. & Baltic States" Аляксандр Емяльянаў. Паводле яго слоў, "SAP" актывізуе сваю дзейнасць на тэрыторыі Беларусі і зацікаўлена ў супрацоўніцтве і прымяненні рашэнняў кампаніі ў дзяржсектары, машынабудаванні, транспарце.

У Беларусі практычна адсутнічае "мода" на сістэмы кіравання дзейнасцю прадпрыемстваў, не выкліканыя рэальнай патрэбнасцю. Асноўныя беларускія прамысловыя прадпрыемствы знаходзяцца ў дзяржаўнай уласнасці, аднак каля 80 працэнтаў вытворчых і кіраўнічых працэсаў стандартныя для ўсіх прадпрыемстваў. "Імі можна кіраваць, патрэбна на іх пераносіць лепшы сусветны вопыт, што мы і прапануем", — сказаў прадстаўнік фірмы.

**Вольга АСІПЕНКА.**

### Камп'ютэрны вірус стаў асновай крымінальнага бізнесу

У Брэсце распачата крымінальная справа ў дачыненні да студэнта першага курса адной з мясцовых ВНУ, які падазраецца ў камп'ютэрным вымаганні. Затрыманы органамі міліцыі малады чалавек сам стварыў камп'ютэрны вірус, які рассылаў на канкрэтныя адрасы ў Інтэрнэце вялікай колькасці карыстальнікаў віртуальнай сеткі. Сутнасць у тым, што гэты вірус поўнасцю блакіраваў працу камп'ютэраў.

Як паведаміў БелаПАН кіраўнік прэс-службы УУС аблвыканкама Віктар Васілеўскі, за тое, каб ліквідаваць няспраўнасці і забяспечыць антывіруснай праграмай ён патрабаваў 10 тысяч рублёў. Разлік быў на тое, што гэта сума невялікая, і ніхто не стане скардзіцца. Аднак яго надзеі не апраўдаліся. Першы званок брэсцкім міліцыянерам паступіў з Гомельскай вобласці ад маці аднаго з пацярпелых, а пасля было яшчэ некалькі падобных паведамленняў. Апэратыўнікам удалося выявіць прадпрымальнага маладога чалавека, у якога быў канфіскаваны камп'ютэр.

**Ларыса ШЫГАНАВА.**

### Падчас сваркі

Пракуратурай Савецкага раёна Гомеля распачата крымінальная справа ў дачыненні да 81-гадовага жыхара Рагачова (Гомельская вобласць).

Як паведамілі БелаПАН ва ўпраўленні інфармацыі і грамадскіх сувязяў МУС Беларусі, пажылы чалавек падчас сваркі ў абласным клінічным анкалагічным дыспансеры нанёс шматлікія нажавыя раненні 73-гадоваму жыхару вёскі Ціхінічы Рагачоўскага раёна. Абодва пенсіянеры знаходзіліся ў дыспансеры на стацыянарным лячэнні. Падазроны затрыманы.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

### Які конкурс у ВНУ?

*У дзевяці вядучых ВНУ Беларусі заканчваецца ўступная кампанія. Як паведамляе прэс-служба Камітэта дзяржаўнага кантролю, сярэдні конкурс па ВНУ гэтай групы складае 3,9 чалавека на месца.*

Найбольшы конкурс — 5,5 чалавека на месца — у Беларускім дзяржаўным эканамічным універсітэце (БДЭУ), што ў 1,8 раза вышэй, чым у 2003 годзе. У 1,4 раза вырас конкурс у Беларускім дзяржаўным універсітэце — 4,3 чалавека на месца. Гэта найвышэйшы паказчык за апошнія 20 гадоў. Традыцыйна высокім застаўся конкурс у Беларускім дзяржаўным медыцынскім універсітэце — 5,1 чалавека на месца (у 1,2 раза вышэй, чым у 2003 годзе).

Яшчэ найвышэйшым з'яўляецца конкурс на асобныя спецыяльнасці. Так, у БДЭУ на спецыяльнасць "лінгвістычнае забеспячэнне міжкультурных адносінаў" прэтэндуюць 27,8 чалавека на месца; у БДУ на спецыяльнасць "міжнародныя адносіны" — 19,9, "псіхалогія" — 15,7, "лінгвакраіназнаўства" — 13,9, "міжнароднае права" — 13,3.

У Беларускім нацыянальным тэхнічным універсітэце самай запатрабаванай з'яўляецца спецыяльнасць "праграмнае забеспячэнне інфармацыйных тэхналогій", дзе 9,3 прэтэндэнта на месца, а таксама "экспертыза і кіраванне нерухомасцю" — 7,9. У Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры найбольшая канкурэнцыя сярод абітурыентаў назіраецца на спецыяльнасці "дэкаратыўна-прыкладное мастацтва", куды прэтэндуе 7,6 чалавека на месца, і "культуралогія" — 7,4. У Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў конкурс на спецыяльнасць "акцёрскае майстэрства тэатра і кіно" складае 8,3 чалавека, на "дызайн" — 7,2 чалавека на месца.

Заявы аб залічэнні на навучанне без уступных іспытаў падалі 189 пераможцаў міжнародных і рэспубліканскіх алімпіяд, 129 пераможцаў алімпіяд БДУ, 7 чэмпіёнаў свету, Еўропы і алімпійскіх гульняў.

**Вольга АСІПЕНКА.**

*Мне зверху бачна ўсё.*

Фота photo.bymedia.net

КРЫМІНАЛ

### Праз пункт «Дамачава»

*Крымінальная справа ў дачыненні да двух баранавіцкіх прадпрымальнікаў распачата ўпраўленнем дэпартамента фінансавых расследаванняў Камітэта дзяржаўнага кантролю па Брэсцкай вобласці.*

Як паведамілі БелаПАН у гэтым ведамстве, на працягу 2000—2001 гадоў бізнесмены па папярэдняй змове правезлі ў Беларусь праз пункт мытнага афармлення "Дамачава" з Польшчы 289 тон мясных прадуктаў і сала (гэта больш як 4 таварныя вагоны). Знаходлівыя прадпрымальнікі тлумачылі, што прадукты вязуць для асабістага карыстання, а самі прадавалі іх мясакамбінатам краіны.

У выніку бюджэт недаатрымаў 42,5 мільёна рублёў.

**Ларыса ШЫГАНАВА.**

# Не решился...

*(Окончание. Начало на 1-й стр.)*

Именно поэтому, начиная с анализа саммита в Сочи, автор этих строк практически в каждом материале ставил один и тот же вопрос: увидим ли мы российского президента 3 июля рядом с А.Лукашенко? В принципе, вопрос можно было бы поставить по-другому: будет ли 2—3 июля объявлен референдум? Учитывая итоги Сочи и "психушки" в Синьковке, ответ напрашивался один: В.Путина в Минске не будет.

29 июня стало ясно, что В.Путин тем не менее прилетит. Но только 30 июня стала известна программа пребывания российского президента на белорусской земле. Она поразила своей самобытностью. Трудно найти аналоги в мировой истории дипломатии, чтобы официальный визит главы мировой державы да еще вместе с президентом другой соседней страны проходил поздним вечером и глухой ночью — при свете свечей и фонарей — и занял всего 3,5 часа. Весь визит был подчеркнуто ориентирован на демонстрацию уважения к ветеранам войны и подвигу белорусского народа. Не было сказано ни одного слова одобрения в адрес А.Лукашенко за приведение в порядок памятников, оказание помощи солдатам Победы, организацию столь масштабного празднества. В итоге, высокие гости четко отделили белорусский народ и ветеранов Второй мировой от правящего в Беларуси режима. Естественно, белорусскому президенту В.Путин, как воздух, нужен был не ночью в Хатыни, а 2 июля в зале Дворца Республики. Это был первый кризис минского сценария.

Истины ради стоит отметить, что определенные дивиденды от "ночного визита" официальный Минск все-таки получил. Трансляция и комментарии к визиту были выстроены так запутанно, что неподготовленному человеку было практически невозможно определиться в сроках пребывания В. Путина в Беларуси. Огромная масса белорусов еще 2 и 3 июля были твердо убеждены, что президенты России и Украины находятся в Минске. Даже 3 июля в информационных выпусках БТ использовался следующий штамп: "Накануне праздника в Беларусь **прибыли** президенты Российской Федерации и Украины", хотя вместо "прибыли" надо было использовать словосочетание "состоялся визит".

Если использовать терминологию передачи "Зеркало" (РТР), то "ночной формат" визита российского президента в Беларусь оказался **сильным ходом** Кремля. Спрогнозировать столь эффектный политический шаг было крайне сложно, если вообще возможно. Да и не нужно, так как на таком приближении политологии к реальной политике есть опасность оказаться в паутине политических интриг, распутать которые нет никакой возможности, так как их динамика носит субъективный характер.

Последствия "ночного визита" стали сказываться к обеду 2 июля. Наметился новый кризис. Отоспавшийся в Завидово от ночных "факельных" шествий, российский президент неожиданно пригласил ВСЕХ президентов СНГ прибыть в Москву 3 июля. Повод оказался самый что ни на есть "насущный". Видимо, находясь под впечатлением посещения Хатыни, В.Путин призвал срочно обсудить программу совместного празднования 60-летия Победы в 2005 году. Забегая вперед, стоит отметить, что на следующий день "обсуждение" странным образом продолжилось на Центральном московском ипподроме, где разыгрывался приз президента России. Среди десяти президентов белорусского, разумеется, не оказалось...

Мы можем только представить состояние А.Лукашенко в тот момент, когда ему вручили приглашение из Москвы. Мало того, что в случае его отъезда из Минска 3 июля сразу после парада нарушался весь сценарий праздника, но в случае объявления им начала референдумной гонки он буквально на следующий день рисковал оказаться перед десятком своих коллег в положении "подсудимого" на своеобразном "товарищеском суде". Один против всех. Естественно, что Александр Григорьевич в формате "Вам можно, а мне нельзя" не смолчал бы в адрес восточных владык. Но кому от этого было бы легче?

За считанные минуты перед началом выступления в зале Дворца Республики было необходимо принять решение. И оно было принято. Для того чтобы понять, на что же решился А.Лукашенко, если вообще решился, стоит проанализировать саму речь.

Выступление главы белорусского государства было оформлено в стиле "Братья и сестры". "Белая Русь, судьбой расположенная на рубеже мощных геополитических сил, не раз подвергалась нашествиям и опустошениям". В общем, неприятель у ворот. Но *"тогда у нас был общий враг". Отсюда и призыв ко всем, "кто приехал, преодолев и недуг, и болезни, а может, и сопротивление власть предержащих",* **быть солидарными** с белорусским руководством. Это первая "ступень" восхождения к главной цели.

Вторая "ступень" была посвящена борьбе главы белорусского государства против *"засилья националистов"*. Новый "подвиг" не заставил себя ждать: *"Опираясь на ваш, уважаемые ветераны, авторитет в обществе, мы отстояли справедливость"*, разгромив *"идейных потомков фашистских пособников"*. Так что А.Лукашенко не просто почитатель подвига отцов и дедов, но и товарищ по оружию, однополчанин, защитник правды о войне, которую пытаются заставить "забыть" — "так подсказывают из-за рубежа". Отсюда третья "ступенька": Запад и *"внутриполитическая оппозиция"* хотят *"отнять у нас Великую Победу"*.

Аргументация, стоит отметить, превосходная: *"у нас нет той великой державы, водрузившей над рейхстагом Знамя Победы"*, то есть с "наследничками" СССР в лице Москвы белорусам не повезло. Истинный "наследник Победы" обретается в Минске. И это естественно, так как *"мы всегда были людьми честными, верными друзьями и надежными союзниками"*. И тут А.Лукашенко наносит свой удар: *"...в 41-м в военном союзе с гитлеровской Германией, напавшей на нашу землю, к сожалению, находилось десять европейских государств... мы не можем забыть того, что уничтожали наших людей не только немецко-фашистские захватчики, но и их приспешники разных национальностей"*. Все, Европа, следом за Россией, отрезана одной репликой.

Европейцы, неся историческую вину за *"геноцид белорусского народа" "...договариваются до того, что им надоела стабильность в нашей стране"*. Фактически, А.Лукашенко обвинил Страсбург и Брюссель в войне против Минска: *"Эти люди, зная вклад белорусов в Победу над фашизмом, зная про нашу чернобыльскую беду, серьезно озабочены тем, как бы сделать нам хуже. Затормозить наше развитие, ограничить наши международные контакты, ввести санкции"*. Но тут ничего нового. Мы не первый раз сталкиваемся с попытками прикрыть персональный государственный беспредел подвигом отцов и дедов. С тем же основанием В. Путин мог бы потребовать с Франции контрибуцию за разорение и сожжение Москвы в 1812 году. В конце концов, "сын за отца не в ответе". Но война уже объявлена, и тут уже вырисовывается четвертая "ступенька": *"Беларусь — государство, которое может за себя постоять"*.

Обращение к белорусской армии стало ритуалом. Речь, конечно, не идет о том, что *"боевую задачу нанесения неприемлемого ущерба агрессору, случись такое, белорусские солдаты и офицеры выполнят"*. Даже суворовцу понятно, что любой из соседей Беларуси потратит на полный разгром белорусского воинства от 30 минут (НАТО) до 48 часов (Украина). Причем сам термин *"нанесение неприемлемого ущерба"* подразумевает удар по коммуникациям противника, аэродромам, стоянкам флота, промышленным центрам. Мы что — собираемся "Точкой" до Варшавы дотянуться? Это слабое место в речи, голая пропаганда. Дело в другом. Глава государства заявляет о лояльности армии своему главнокомандующему, о поддержке "человеком с ружьем" своего президента.

Но поддержка президенту обеспечена не только из будущих окопов: *"Мы будем делать все, чтобы наш народ, как и прежде, жил мирно и спокойно. Но еще раз подчеркиваю, мы — наследники великого подвига Советского народа (!), не можем ходить, понурив голову, и делать вид, что все тихо и спокойно"(?)*. Поддержка спешит с полей и цехов, так как *"привычка к напряженной и качественной работе — у нас в крови"*. И тут нельзя обойтись без президентского "подвига", так как в начале 90-х годов *"откат экономики был почти как во времена Великой Отечественной"*. Отсюда и пятая "ступень": именно А.Лукашенко во второй раз "восстановил" белорусское народное хозяйство.

"Победа" в социально-экономической сфере полная: *"В нынешнем году мы выходим на десятипроцентный прирост всего валового внутреннего продукта, всей нашей белорусской экономики... Свою культуру, науку, образование мы не бросили на самовыживание, не отдали в загребущие руки зарубежных хозяев. Наша страна сама находит средства для поддержки своих талантов... Мы привели в порядок города и села. Вы видите, в каком прекрасном состоянии город-герой Минск — один из красивейших городов Европы..."*. Все, пришло время политики, тем более что начало фразы в президентской речи присутствует: "И это только начало...".

**Но дальше — пустота!** Выступающий снова вернулся к уже озвученной выше теме многонационального состава белорусских граждан и "царящего в белорусском обществе мира и согласия".

Речь, прямо скажем, не торжественная и праздничная, а сугубо политическая, тем не менее очень добротная и, наверное, лучшая из озвученных за последние годы А.Лукашенко, к тому же умно выстроенная по восходящей, оказалась без завершения. С нее как будто сняли политическую "крышу", но пафос сохранили. Скорее всего, не осталось времени на снижение "градуса". Референдум "выпал", его "вырезали"...

Что произошло? Случилось то, что и должно было рано или поздно произойти, о чем еще в 2002 году предупреждали российские эксперты и аналитики. Автор этих строк писал об этом еще год назад. В конце мая 2002 года А.Лукашенко провел в обществе В.Путина почти восемь часов. Простой по сути человек, как говорится, "без Гарварда" в голове, оказался на целый день в обществе холодного, расчетливого, прекрасно обученного и умного офицера спецслужб. А.Лукашенко "раскрылся". Его засняли на видео и потом за несколько месяцев разобрали, как говорится, "по косточкам". И тут же все у белорусского президента "поплыло", стало "сыпаться из рук". Ни одного удачного саммита, ни одного интеграционного прорыва, ни одного очередного "списания долгов". Белорусский президент стал абсолютно управляем. Воля его под контролем. 2 июля ее, то есть президентской воли, и не хватило...

Конечно, еще есть время. До официального объявления дня парламентских выборов можно собрать благодарных ветеранов, организовать обращения и приступить к проведению референдума. Не пропадать же "добру" — миллионам долларов, спущенным на полугодовую PR-кампанию. Но все это уже не то, — продуманный сценарий нарушен, сейчас каждый наступающий день играет против А.Лукашенко. Он проиграл, так и не вступив в битву за свое политическое бессмертие.

Впервые зародилось сомнение: а осталась ли у белорусского президента воля для того, чтобы начать этот, как писали год назад в "Белорусских новостях", "проклятый" референдум? Воли что-то не видно, присутствует один страх.

**NMN.by**

